Cena 60 gr. Цана 60 гр.




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (199) БЕЛАСТОК 20 СНЕЖНЯ 1959 ГОДА ГОД IV



Што гэта такое? А, прачытайце на стар. 3 нашу карэспандэнцыю з БССР.

# УТВОРАНА БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦКАЕ АБ'ЯДНАННЕ ў ПОЛЬШЧЫ

5 снежня ў памяшканні Галоўнага праўлення БГ-КТ у Беластоку адбыўся сход беларускіх мастакоў-прафесіяналаў. На сходзе зроблена кароткая ацэнка Выстаўкі беларускіх мастакоў Беласточчыны, якая была арганізаваная ў зале Клуба міжнароднай кніжкі і друку ў Беластоку і працягвалася ад 15 да 29 кастрычніка 1959 года.

На гэтым сходзе вырашана стварыць Беларускае мастацкае аб'яднанне. Старшынёю Праўлення аб'яднання выбраны Сяргей Кішыцкі, а яго членамі Аглая Артысевіч і Мікола Валкавыцкі. Пасля ўстаноўчых выбараў абмеркован план дзейнасці Аб'яднання на 1960 год.

І так вясной будзе наладжана аб'язная выстаўка прац беларускіх мастакоў - аматараў Беласточчыны. Прадбачваецца індывідуальная выстаўка Янкі Анісэровіча. Наладзіцца таксама выстаўка прац членаў аб'яднання. Безумоўна, што пры ўсіх выстаўках будзе арганізаван распродаж карцін, а таксама будуць праведзены творчыя сустрэчы як знаўцаў, так і аматараў мастацтва з аўтарамі. Варта падкрэсліць, што ўдзельнікі гэтага першага сходу аб'яднання выказалі гатоўнасць выязджаць у вёскі для правядзення перад насельніцтвам гутарак аб мастацтве — яго сутнасці, разменні характва, аб эстэтычным афармленні памяшканняў вясковых хат у духу паказу ўсёй прыгожасці вырабаў народнай творчасці.

Беларускае мастацкае аб'яднанне паскорыць наладжванне выстаўкі рысункаў беларускіх дзяцей, якую намечана адкрыць зімою 1960 года.

На гэтым жа сходзе праведзена ацэнка жывапісу, графікі і акварэлі мастака - аматара Аляксандра Сушчэні.

(ся)

## Да настаўнікаў беларускай мовы

Куратория Беластоцкай школьнай акругі арганізуе курс для настаўнікаў беларускай мовы з школ Беласточчыны.

Адбудзецца ён у днях ад 28 снежня 1959 г. да 5 студзеня 1960 года ў памяшканні Педагагічнага ліцэя ў Бельску.

У праграме курса - лекцыі граматыкі беларускай мовы, методыка навучання беларускай мовы і літаратуры, і інш.

Кожны настаўнік, якому Інспектарат Асветы прапануе прыняць удзел у курсе, павінен зрабіць усё, каб быць на ім. Справа павышэння сваіх кваліфікацый па беларускай мове — гэта высакародны абавязак настаўніка. Яму не можа быць чужым пачуццё вялікай адказнасці за добрыя вынікі ў навучанні роднай мовы.

## ГП БГКТ у новым памяшканні

Паведамляем, што 10 снежня г. г. Галоўнае Праўленне Беларускага грамадска - культурнага таварыства змяніла памяшканне і з «Дома прафсаюзаў» на вул. М. Складоўскай 7, перайшло ў асабняк на вул. Варшаўскай 11 (насупраць пошты).

З ЖЫЦЦЯ ВЁСКІ

# МАХНАТАЕ

Пачынаючы ад 1950 года ў вёску Махнатае ў Гайнаўскім павеце вялікаю струёю пачало ўваходзіць усё новае. У хатах засвяціліся электрычныя лямпы і зайгралі радыёкропкі. З кожным годам людзі жывуць культурней і заможней. Гаспадары пачалі набываць новую мэблю, радыёпрыёмнікі. У каморы або сенях у кожнага гаспадара з'явіўся адзін або два веласіпеды. Вёска стала прыгажэць. Апошнія тры гады ўнеслі новыя змены ў вёску.

Сяляне пачалі перакрываць хаты, пачалі ліквідаваць на будынках саламяную страху, а крыць дахоўкай.

Гаспадары ўзяліся за пабудову цэментных хлявоў. Драўляных хат таксама ўжо амаль не будуюць. Будуюць з цэглы, з жужалю.

У Махнатым усё больш і больш паяўляецца сельскагаспадарчых машын. Ёсць сеўнікі, жняяркі, конныя прыводы (кераты), малацілкі, і нават 3 касілкі. І матацыклы таксама паявіліся ў вёсцы.

У параўнанні з іншымі вёскамі ў Махнатым існуе высокае пачуццё эстэтыкі.

Многія гаспадары ўпрыгожваюць вуглы дамоў, стаўні і дзверы прыгожай народнай разьбой. У Махнатым, як нідзе, кідаюцца ў вочы роўна агароджаныя вуліца, панадворкі і цэлыя сялібы. Усюды належны парадак.

### КРАСЬКІ

Жыхары Махнатага многа чытаюць кніжак і часопісаў. Калі гаварыць аб моладзі, дык перш за ўсё трэба залічыць да кнігалюбаў бібліятэкаршу Веру Назарук, Янку Сельвесюка, Алеся Баравіка і іншых. А з старэйшых найбольш чытае Павел Красько. У яго шмат сельскагаспадарчай літаратуры, а найбольш аб свінагадоўлі. Ён стаў вядомым на ўсю аколіцу як добры свінагадовец. У яго заўсёды стада свіней. Кожны год кантрактуе па 10 і больш штук і мае з гэтага добры даход. Жыве ён толькі з жонкай, абрабляе адным канём 5 гектараў зямлі і гадуе дзве каровы. У працы многа карыстаецца сельскагаспадарчымі машынамі. Ён заўсёды першы ўкараняе ўсё новае і ад яго вучацца іншыя.

**А ДРУГІ КРАСЬКО,** Антон, прыхільнік усяго старога. Ён адзіны ў вёсцы малоціць цэпам збожжа. Яшчэ нядаўна яго воз быў на драўляных восях. Нават сані Антон Красько не зрабіў шырокімі, а вузенькія, такія, якімі дзед і прадзед ездзіў.

Гэты гаспадар мае 5 гектараў зямлі і без патрэбы трымае 2-ух каней. Кароў у яго заўсёды мала, адна або дзве, залежыць ад года.

### КОНСКІЯ СПРАВЫ

Яшчэ ёсць у Махнатым гаспадары, якія не выкарыстоўваюць належна конскай сілы, якім коні аб'ядаюць гаспадарку. Аляксандр Койдук, Андрэй Кот маюць па 6 гектараў зямлі і трымаюць па двое коней. Кастусь Кот і Ігнат Кот маюць па 2 гектары зямлі і трымаюць па 1 каню. А Пятро Грыгарук абрабляе толькі 1 гектар і таксама трымае каня. І конь яму з'ядае ўсё, што ён запрацуе.

Будучы ў Махнатым не аднаго можа зацікавіць тое, чаму многім коням гаспадары зусім абрэзваюць хвасты. Конь махае макоўкай быццам каза, што аж непрыемна глядзець. І ўжо 8-ра коней у Махнатым не маюць хвастоў. Нават ноччу ў хлявах коням адрэзваюць хвасты. Паявіўся злодзей, які адрэзвае і прадае конскія хвасты. Але ёсць яшчэ ў вёсцы і шмат горшых спраў.

### ХОДЗЯЦЬ ПРАЗ АКНО

Ідуць па вуліцы двое старых Рыгор і Марыя Дарафеюк. Дзядуля мае 78 год, а бабуля 74. Бабуля нясе вядро вады, а дзядуля бярэмя дроў. Гародчыкам падыходзяць да шчытовага акна і з вялікай цяжкасцю ўпаўзаюць праз яго са сваім багажом ў

(Працяг на стар. 4)

# МАХНАТАЕ

(Працяг са стар. 1)

хату. Навараўшы ў печцы стравы і пад'еўшы, назад вылазяць праз акно і ідуць да сваёй штодзённай гаспадарскай працы. У чым справа? Чаму дзядуля і бабуля не ходзяць праз дзверы, а лазяць акном? Таму, што праз дзверы ходзіць родная дачка Хвядора і зяць Яшка Несцярук. Ужо больш года старыя бацькі лазяць акном. Старыя сцвярджаюць, што зяць бітлівы і баяцца хадзіць дзвярыма, а пасля праз кухню, у якой жыве дачка з сям'ёй, да свайго пакоя. Зяць гаворыць, што дазваляе хадзіць дзвярыма. Хто вінаваты, цяжка разабрацца. Аднак мне здаецца, што родная дачка павінна не дапусціць да такога нялюдскага становішча.

## МАСТАЦКІ КАЛЕКТЫЎ

Гаворачы аб жыцці вёскі Махнатае, нельга праміну́ць мастацкага калектыва, кіраўніком якога з'яўляецца Славік Красько. Ужо некалькі год існуюць харавы, інструментальны і драматычны гурткі. Моладзь не толькі захапляла сваімі выступленнямі аднавяскоўцаў, але і неаднойчы выязджала са сваім рэпертуарам у суседнія вёскі. Вядома, кожны год мастацкі калектыў разгортвае сваю дзейнасць зімою, бо не перашкаджаюць тады ўсялякія палявыя работы. Таксама і цяпер наступаюць доўгія зімовыя вечары, якія будуць выкарыстаны на разгортванне мастацкай самадзейнасці.

М. ХМЯЛЕЎСКІ

# МІНУЛАЕ І СЁННЯШНЯЕ

Разбудзіла Язэпа Шмурла з вёскі Шмурлы (Бельскі пав.) галасістае ка-ка-рэ-ку пеўня, які закінуты быў пад печ з мэтай, каб разбудзіў. І разбудзіў певень у поўнач. Язэп устаў, засвяціў газоўку, а пасля ўставіў яе ў ліхтар і, абуўшыся ў лапці, пайшоў у клуню рэзаць сечку. І пакуль нарэзаў, як сам выражаўся, крушню сечкі, дык не адзін пот выступіў. Крыху адпачыўшы, скінуў на ток 12 снапкоў жыта і ўзяўся за цэп, прыстукваў так, што аж рэха раздавалася. Малоцячы, думаў аб лёсе сваіх дзяцей. Дачка не можа выйсці замуж, бо няма пасагу, а 14-гадовы сын хоча вучыцца ў гімназіі. А адкуль узяць грошы на школу, ды і ці прымуць мужыцкага сына.

Калі сонца адскочыла крыху ад зямлі, жонка паклікала яго на снеданне. Пасля снедання Язэп паклаў на воз мяшок жыта, барану, каробку, і, запрогшы драхленькага коніка, паехаў сеяць на свой вузенькі загон. Распрогшы каня, скінуў барану, а пасля сярэдзінай загона прайшоў з паўгоняў, перахрысціўся шырока; штосьці пашаптаў і зноў перахрысціўся.

— Дай Божа, каб парасло такое жыта, каб серпа цяжка было ўбіць у яго, — сказаў і трэці раз перахрысціўся.

Так жыў і працаваў Язэп Шмурла ў даваенныя часы, за санацыйнай улады.

Цяпер Язэп Шмурла жыве і працуе на гаспадарцы зусім інакш. Певень не замяняе яму гадзінніка. Ён не ўстае апоўначы рэзаць сечку і малаціць. У яго ёсць манеж і рэжа сечку канём, а малоціць таксама машынай. Ды і газоўкі няма ў яго хаце. І ў пуні і ва ўсіх будынках ёсць электрычны свет, а ў хаце радыёкропка. Серп таксама цяпер яму непатрэбны. Збожжа жне жняяркай, а сее сеўнікам. На поле едзе не жалезным возам, а балонавым. І не просіць ураджаю ў вышэйшых сіл, бо ўдабрае сваю зямлю мінеральнымі ўгнаеннямі. А сын Язэпа закончыў вышэйшую школу і працуе інжынерам у Новай Гуце.

Язэп Шмурло з'яўляецца членам сельскагаспадарчага гуртка. Яго, як і іншых членаў гуртка, моцна зацікавілі чэрвеньскія пастановы нашай партыі. Абмеркаваўшы іх на сходзе, гурткоўцы пастанавілі купіць трактар і шмат іншых сельскагаспадарчых машын на суму 84 570 зл. Цяпер гавораць у вёсцы аб тым, што трактар заменіць коней, а пашу, якую з'ядалі коні, можна выкарыстаць на гадоўлю свіней, кароў і авечак.

Члены сельгасгуртка часта гавораць і аб тым, каб хоць часткова механізаваць і працу жанчын. І тут маюць на думцы пакупку некалькіх супольных пральных машын з выжымачкамі і некалькі шаткаўніц для капусты.

Шпаркімі крокамі ўступае ў Шмурлы новае жыццё. Вёска механізуецца. Прыгажэе жыццё нашых хлебаробаў.

М. Х.

# ПОМНІКІ І

Мяняецца жыццё, мяняюцца і людскія перакананні. Іншыя цяпер адносіны веруючых людзей да рэлігійных традыцый. Аднак жа на магілах блізкіх людзі стаўляюць помнікі, крыжы, ушаноўваючы такім чынам памяць аб іх. Кожная магіла даглядаецца, садзіцца на ёй кветкі, абкладаецца дзёрнам. На працягу стагоддзяў магільнік робіцца помнікам мінуўшчыны. Цікавасць прадстаўляюць падпісы на крыжах - помніках. Іх з найбольшай цікавасцю адшыфроўваюць новыя пакаленні. А гэта ж усё складае ў сваю чаргу традыцыйныя ўрачыстасці, рэлігійнага ці свецкага характару, у так званыя святы памерлых, якія маюць таксама нейкі ўплыў на духоўнае жыццё чалавека. Ёсць аднак людзі, якія не шануюць традыцый, а нават парушаюць такія правы, загарантаваныя нашай канстытуцыяй як свабоду захавання традыцый, калі яны ў сваю чаргу не парушаюць грамадскай этыкі. Вось прыклад.

З усходне - паўночнага боку вёскі Завыкі (Лапскі павет) на раўнінным месцы, сярод ворыва і пералескаў раскінуўся невялікі магільнік. Пасярэдзіне магільніка старая часоўня. Невядома, калі гэты магільнік быў заснаваны, але век найстарэйшых крыжоў можна акрэсліць амаль на 200 гадоў. Памерлых цяпер на гэтым магільніку не хаваюць. У час санацыі ён з праваслаўнага быў пераўтвораны ў каталіцкі. Магілы там ужо цяжка адшукаць. Толькі там, дзе ўтрымаліся каменныя помнікі, можна яшчэ знайсці і магілы. Прыгожыя помнікі вельмі знявечаны. Фігуркі з крыжамі разбітыя, адціснутыя надпісы падрапаны вострымі прыладамі так, што некаторыя з надпісаў цяжка ўжо і прачытаць. Моцны жалезны крыж і той пахіліўся (але, здаецца, не сам), быццам прыдаўлены нейкай сілай. Каменная агарожа часткова разбітая, а часткова, відаць, і сама рассыпалася.

Ёсць нават свежа пабітыя помнікі. А гэта ж людзям калісьці каштавала шмат грошай, каб паставіць па памерлых такія помнікі...

# У МАЛАДЫЯ ГАДЫ

(Працяг са стар. 3)

захстане мой начальнік смяяўся з мяне: «Ну, які з цябе інжынер, калі ты нават электрычнага чайніка ці корка, калі перагарыць, не паправіш!..» Я быў загадчыкам склада. Меў у распараджэнні тоны цвікоў і шыферу, сталярскага клею. Эх, бывала, пусціш на бок машыну шыферу... А наогул, пані Елене, у Расіі працавалі, навучаць, я вам ручаюся! Цяпер мне ніякая работа не страшная...

Побач стаяла бабка. Жанчына зусім прыліпла да сценкі аўтобуса і ніяк не магла адважыцца загадаць Браніславу падсунуцца, каб і бабка села. А той сам зрабіць гэтага не здагадаўся. Бабку пазвалі ў іншае месца. Тады жанчына спыталася.

— Вы ля Вільні ў сваіх вёсках не былі?

— Эх, няма чаго там быць. Тут усюды адно. Але ж, пані, у мяне тры маёнткі пад Лоддзю. Вялікія. Пані пытае, што я буду там рабіць? О, ручаюся галавой, што як прыеду пад Лодзь да сваіх хлопцаў і паправу ў аднаго курыцу, то кожны дасць па адной, і ў мяне будзе адразу 3000 курэй.

Паляк з апельсінавым чамаданам азірнуўся на нас, шматзначна падміргнуў, быццам казаў:

«Хутчэй едзь. Там цябе чакаюць, а як жа!..»

— Не прападу! Пад Лоддзю ў нас дом толькі для гасцей мае 30 пакояў . Адно Марысю трэба мне недзе ўладкаваць... Тады звярнуся да Гамулкі...



2.

Сустрэча з князем выклікала ва мне ўспаміны з віленскага жыцця. Прайшло столькі часу, а Крысю я не забыў. Бо ці можа забыць інвалід адрэзаную нагу? Яна імя сніцца, «свярбіць» і «баліць». Гэта было маё першае каханне. А каханне ў маладосці — што разьба па камені.

Цяпер я жанаты на былой партызанскай радыстцы Станіславе Эдуардаўне і жыву ў Гродна. Хоць ні на мінуту не забываю Крысю, гэта не перашкаджае мне любіць жонку. Мы жывем душа ў душу, я не маю сакрэтаў ад яе, яна ад мяне. Ці гэта сапраўднае каханне, ці мая любоў толькі прыстасавалася, як можа прыстасавацца чалавек хадзіць на адной назе, — не ведаю, над гэтым не думаў. Мяне моцна кранулі словы Любецкага аб тым, што Крысю немцы расстралялі. Няўжо тады забілі яе за мяне? Пачало мяне мучыць сумленне.

...Днямі мы, два інспектары абласнога аддзела народнай асветы, паехалі ў раён правяраць, як школы падрыхтаваліся да новага навучальнага года. Надыходзіла гарачка летніх экзаменаў — і дырэктарам было не да нас. На райкомаўскай машыне мы за дзень аб'ездзілі сярэднія школы і маглі вяртацца ў Гродна, ды поезд ішоў толькі заўтра. Апынуўшыся без работы ў незнаёмым месцы, мы не ведалі, куды сябе дзець і пайшлі ў рэстаран.

З інспектарам аблана Віктарам Кучэрыным апошні раз нам даводзілася ездзіць часта, і ў нас была такая блізкасць, пры якой кожны меў права распытаць другога, што толькі ўздумае. Яшчэ нас злучала мінулае.

Аднаго разу наша група партызан вярнулася з-пад Вільні і прывяла з сабой аднарукага лётчыка. Яго вылечылі і аддалі нашым хлопцам сяляне.



Відаць, няма на свеце такога чалавека, які б не адчуваў слабасці да лётчыкаў. А Кучэрын для нас быў і чалавекам з Вялікай зямлі. Максім стаў любімчыкам партызан. У яго былі закаханы ўсе нашы дзяўчаты.

Седзячы цяпер у раённым рэстаране за чаркай каньяку, я напомніў Кучэрыну мінулае і зарагатаў.

— Маладосць... Давай вып'ем за нашую баявую, непаўторную маладосць! — прапанаваў ён.

Мы выпілі.

Паказваючы на яго пратэз, я перамяніў тэму:

— Штосьці не памятаю, каб ты мне расказваў, дзе цябе стукнула у самалёце.

— На зямлі. У лесе натрапіў на леснікоў. Выратавала адна польска - нямецкая перакладчыца.

— Перакладчыца!? — мяне кранула прадчуванне.

Успомнілася, як чатыры гады таму назад у аўтобусе Любецкі сцвярджаў, быццам Крысю расстралялі немцы. «Мала ў Вільні было ў немцаў перакладчыц? Сотні!» — супакоіў я сам сябе. Кучэрын апавядаў:

— Збілі мяне немцы ноччу над Беластокам. Прызямліўся ў нейкім агародзе. Адчапіў парашут і — ходу! З сабой меў толькі пісталет. Нейкі дзядзька на хутары даў на дарогу сала, торбу квашанай капусты, салдацкую палатку, і я падаўся на ўсход. Прабіраўся ноччу. Удзень дрыжэў, зашываўся ў кусты. Быў сакавік — самая дрэнная пагода: макрэнь, холад, доўгія дні. І, як на тое, ніяк не трапляў на партызан. Ежа хутка скончылася, вопратка каторы час не прасыхала і прасмярдзела. На другі тыдзень пачала мяне трасці ліхаманка. Аслабеў зусім, думаў — каюк! І вось, аднойчы, нехта мяне штурхае руляй вінтоўкі ў грудзі. Прасыпаюся і

Карэспандэнцыя з Істамбула



# ТАМ ДЗЕ ТЫСЯЧЫ МІНАРЭТАЎ

Першае знаёмства з Істамбулам ачароўвае турыста. І не толькі харасьтвом архітэктуры. Найбольшы ў свеце збор візантыйскіх пабудоў, даўнейшы Канстантынопаль раскінуўся над залівам Залатога Рога, зашпільваючы яго як на пражку. На фоне зялёных узгоркаў, сярод паркаў і агародаў вырысоўваецца агромная, казачна - нерэальная панарама горада.

Старажытная сталіца Усходу, якая здалёк, быццам праз імглу, паказвае здзіўленаму турысту таямнічыя абрысы замкаў, крэпасцей і палацаў. Над усім гэтым узвышаюцца агромныя капулы мячэцяў, вакол якіх быццам узнёслыя дрэвы пазбаўленыя крон, горда блішчаць у ранішнім сонцы стройныя башні мінарэтаў.

Нас захапляе стары Канстантынопаль. У горадзе шмат вузкіх і крутых, бягучых угару вулічак. Пакручастыя ружы і дзікі вінаград пераплятаецца там з архітэктурай дамоў, храмаў, палацаў і гарадскіх варот, якіх налічваецца ў горадзе аж 38. Сярод іншых захаваліся славутыя вароты «Топ Капу», праз якія ў 1453 г. уварваліся ў горад Туркі ў час улады Канстанціна XI. Ад гэтага часу Канстантынопаль пачаў звацца Істамбулам і да сённяшніх дзён застаецца ў руках туркаў.

Асабліва захапляе нас архітэктура храмаў, а перш за ўсё «Гагі Софіі»*), слаўнага старажытнага хрысціянскага храма, пераўтворанага туркамі ў мячэць. Храм гэты даў пачатак прыгожаму стылю, вядомаму ў архітэктуры як візантыйскі стыль, які шырока распаўсюджаны на ўсходзе Еўропы і прыняўся перад усім у царкоўным будаўніцтве.

«Гагія Софія» пабудаваны вядомымі архітэктарамі Ізідарам з Мілета і Анптімёсам з Талеса, з'яўляецца ўкаранаваннем доўгага працэса развіцця царкоўнага будаўніцтва Бліжэйшага Ўсходу, Грэцыі і Рыма. Унутры ён вызначаецца маляўнічым ураўнаважаннем выдзьмутых, быццам парусы, капул, якія лагодна сплываюць на баковыя сцены, з прыгожай мастацкай дэкарацыяй, мазаікамі па залатым фоне і гарманічным асвятленнем.

Пачынаючы з 1934 года «Гагія Софія» з'яўляецца музеем, якога не прамінае ніводны турыст, які наведае Істамбул.

Другім храмам, які выклікаў ў нас не меншае захапленне, была мячэць султана Ахмеда, якую называюць яшчэ «Блакітнай мячэццю». Гэтую назву атрымала яна дзякуючы ўнутранаму афармленню. Сцены мячэці выкладзены блакітнымі кафлямі, якія прыдаюць цэласці блакітны адценак. Цудоўны ўнутраны воблік гэтай мячэці. Паркетная падлога засланая найпрыгажэйшымі турэцкімі дыванамі, сцены пакрыты золатам, распісаны вытрымкамі з Карана і гавораць аб роскашы, багацці і магутнасці тых, хто яго пабудаваў. Экскурсавод, які абводзіў нас па мячэці расказваў, што яна была пабудавана султанам Махмедам у 1609—1617 гадах ў чыстым стылі турэцкай архітэктуры. Гэта адзіная ў свеце мячэць, якая мае аж 6 мінарэтаў.

Немагчыма абыйсці ўсе храмы Істамбула, таму што толькі адных мячэцяў, як нам сказалі, налічваецца ў гэтым горадзе каля 900.

Каб адчуць поўнасцю настрой Усходу, не хопіць агляду адной толькі архітэктуры гэтага горада. Неабходна яшчэ наведаць турэцкі рынак у Істамбуле.

Каля ўваходу на рынак не знойдзеш нічога асаблівага. От, звычайныя вялікагарадскія гандлёвыя рады з таварамі выпрадукаваным на еўрапейскі манер, пераважна дрэнным і негустоўным. Дастаткова аднак прайсціся па бакавым вулічкам каля рынку, каб сустрэцца з сапраўдным жыццём старога Істамбула.

Вулічкі гэтыя падзелены паводле купецкіх прафесій на вуліцы залатароў, ювеліраў, сталяроў і г. д.

Побач змясціўся маляўнічы рынак з гароднінай і фруктамі. Гандаль, як ва ўсіх гарадах усходу і поўдня, праходзіць на вуліцы. Сярод руплівага натоўпу прадаўцоў праязджаюць возікі з таварам, запрэжаныя муламі з упражжу набіванай срэбрам і туркусамі. Дробныя прадаўцы нясуць на плячах агромныя колькасці скрынак і кошыкаў з пляцкамі, фруктамі і піражным. Пад сценамі дамоў сядзяць прадаўцы каштанаў і гарачай кавы, напаранай на месцы ў цыновых жбанах. Маленькія пасланцы разносяць на падносах у форме вагі прахаладжальныя напіткі і каву купцам, якія сядзяць у крамах. Час-ад-часу ціха прашмыгне жаночая постаць, да сённяшняга дня таямніча ахутаная ў цёмныя заслоны.

Такі менавіта вобраз старога Істамбула, рамантычнага горада Ўсходу, якога не раз апявалі паэты і праслаўлялі артысты ўсіх часоў.

М. ЧАЙКОЎСКІ
фота аўтара

*) Грэчаская назва вядомага сабора св. Софіі. Значыць «Божая Мудрасць».

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

### ЛІСА І САБАКІ

Не толькі ў казках ліса выводзіць у поле сваіх ворагаў. Гэткі выпадак здарыўся ў англійскай мясцовасці Соцдаул.. Ліса, уцякаючы ад паляўнічых і іх сабак, убегла ў жалезнадарожны тунель. За ёй убеглі ў тунель і сабакі. Якраз з другога боку ў тунель уехаў цягнік. Ліса прыціснуўшыся да сцяны тунеля перачакала цягнік і ўцякла з другога боку тунеля, у той час, як сабакі трапілі пад цягнік.

### НЕ ЎСЁ ЗОЛАТА, ШТО СВЕЦІЦЬ

У мясцовасці Ляго, Маггіёрэ (Італія) падчас выбараў кандыдатак на Міс Італіі дайшло да спрэчкі, а пасля і да патасоўкі паміж журы і кандыдаткамі. У час патасоўкі выявілася, што некаторыя кандыдаткі маюць штучныя валасы і іншыя заганы, якія прадставілі кандыдатак у зусім іншым святле.

### САБАЧАЕ ЗАВЯШЧАННЕ

Звар'яцелая міліянерка з Сан Франціско запісала значную частку свайго маёнтка, які ацэньваюць на мільён долараў, у сваім завяшчанні на помнік па яе сабачцы Бінго. Адначасова свайму мужу запісала ўсяго адзін долар. Гэта яшчэ адзін з прыкладаў адносін багачоў у «вольных краінах» да чалавека, нават да члена сваёй сям'і.

Падобнае да гэтага завяшчанне склала другая багачка па прозвішчу Гарт, якая завяшчала ўсю сваю маёмасць вартасцю 25 000 долараў двум сіямскім катам. «Гэта ўся мая сям'я», — апраўдвала яна сваю пастанову. Ёй і ў галаву не прышло падумаць аб мільёнах людзей, якія жывуць у нястачы. Відавочна, яна не адчувала таго, што з'яўляецца чалавекам.

Толькі для закаханых




Увосень мне давялося быць у сваёй цёткі, дзе памагала капаць бульбу. І вось там я пазнаёмілася з Валодзяй, які працуе ў Хажове і завочна вучыцца ў Горным тэхнікуме на апошнім курсе. Відавочна, я спадабалася яму, таму ён піша да мяне лісты, наведаў раз мой родны дом і запрапанаваў, каб я выйшла за яго замуж. Я, праўду кажучы, надта ўзрадавалася, бо ён мне таксама падабаецца. Але Валодзя хоча, каб я пасля замужаства пайшла вучыцца ў восьмы клас, ці закончыла якую - небудзь прафесіянальную школу. І вось гэтыя прапановы Валодзі мяне страшаць. Я салгала яму, сказаўшы, што скончыла 7 класаў. У сапраўднасці я 7 класаў не скончыла, таму што дрэнна вучылася. Валодзя прыслаў нядаўна пісьмо і прапануе, каб у снежані пажаніцца. І што цяпер рабіць? Прызнацца яму ці не, што я не закончыла 7 класаў. А і канчаць мне не вельмі хочацца. Навука даецца мне цяжка. Баюся, што калі прызнаюся, дык Валодзя адрачэцца ад мяне, баюся і не прызнацца, таму што гэта несумленна, гэта ашуканства. Хіба аднак лепш будзе не прызнацца. Як ты, Сэрцайка, думаеш?

ЖЭНЯ К.
Беластоцкі павет

Я думаю, што лепш прызнацца. Ашуканства — рэч паганая і нягодная чалавека. Валодзя цябе кахае і зразумее, калі сапраўды шчыра яму раскажаш усё і сама прызнаешся, што зрабіла дрэнна.

Адносна навукі, дык Валодзя мае ў гэтым паўнейшую рацыю. Хоць і вучыцца табе цяжка, аднак павінна намагчы ўсю сваю волю і распачаць вучобу. У будучым не пашкадуеш, бо яшчэ ніхто ў свеце не шкадаваў, што вучыўся. Калі кахаеш Валодзю, дык няхай ён будзе для цябе прыкладам, як трэба здабываць веды, нягледзячы на ніякія цяжкасці. Жадаю ўсяго добрага. СЭРЦАЙКА




**B. KISIELEWSKA, H. SARNOWSKI**
**LEKSYKON GOSPODARSTWA DOMOWEGO**

Надта цікавая і карысная кніга. У ёй знойдзеш усё, што павінна ведаць і ўмець жанчына.

Без лішніх слоў для лепшай арыентацыі падам загалоўкі некалькіх раздзелаў кнігі.

Ашчаджанне
Гатаванне
Вялікія парадкі
Барацьба са шкоднікамі
Птушкагадоўля
Што і калі есці.
Распазнаванне якасці прадуктаў.
Як чысціць плямы.
Шыем самі
Хвароба ў хаце
Мацярынства
Правы для кожнага.

На ўсе гэтыя і масу другіх пытанняў знойдзеш адказ у кнізе „Leksykon gospodarstwa domowego". Стар. 426. Цана 50 зл.

Можна купіць у кожным «Доме кнігі».

## МОДА



НА БАЛЬ (ЗАБАВУ)

Набліжаецца карнавал. Прапануем пашыць на яго такую сукенку. У ёй, напэўна, будзеце прыгожымі і спадабаецеся хлопцам.

Белая сукенка з шоўку. Простая лінія. Кароткая спаднічка (клёш) з клінамі, абшытымі белым атласам, на вельмі штыўнай і шырокай гальцы.

Абціслы станік, вузкія, караткаватыя рукавы з высокімі штыўнымі манжэтамі.

(З паказу савецкай моды ў Варшаве).

